# "Непрыкрытай душою к людзям..."

***Сёння на нашай літаратурнай старонцы прадстаўлены пяць аўтараў: настаўніца беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 1 Кобрына Ніна Дрык; настаўніца хіміі і біялогіі, намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Цялякаўскай сярэдняй школы Уздзенскага раёна Валянціна Рогач; настаўнік сярэдняй школы № 2 Стаўбцоў Яўген Карпуць; настаўніца беларускай мовы і літаратуры мінскай гімназіі № 5 Людміла Лапата; выпускніца факультэта беларускай філалогіі і культуры БДПУ Алена Тацэвіч.***

***Ёсць адна асаблівасць, якая аб'ядноўвае сённяшніх аўтараў. Усе яны (апроч таго, зразумела, што звязалі свой лёс адначасова з настаўніцкім і мастацкім словам) з'яўляюцца сябрамі тых ці іншых літаратурных аб'яднанняў, гэта значыць, займаючыся літаратурнай дзейнасцю, актыўна кантактуюць з калегамі па пяры і, што яшчэ больш важна, далучаюць да творчасці іншых, маладзейшых і менш вопытных. Вельмі істотная, на наш погляд, асаблівасць. Бо адна справа - па-аматарску пісаць у стол і зусім іншая - не баяцца выносіць свае творы на шырокі суд, адчуваючы, што ты маеш на гэта права - як настаўнік, як літаратар, як чалавек.***

**Аддзел культуры.**

## Ніна ДРЫК

* * *

Матуля хлеб пячэ:
у хаце светла.
Казыча ноздры
кісленькі квасок.

На лаўцы - дзежка,
быццам гаспадыня.
І ззяе печка,
быццам абразок.

А маці бохан
спаласне вадзіцай,
Наверх накіне
белы ручнічок.

Якому Богу
Трэба памаліцца,
Каб хлебны дух
з хаціны не ўцёк?

* * *

Парваны струны, а акорд гучыць,
Асінавым лістом трымціць надзея,
Той успамін нічым не загасіць.
Ён журавінкай на марозе чырванее.
Вам не забыць лісцвяны пах завей,
Мне не аддаць пакуты ліставею.
Вандроўнік-вецер над акном заціх,
Пашкадаваўшы белую лілею.

Зямля ў блакіце
На захадзе сонца.
Дзе твой пачатак,
Скажы мне, рака?
У нетрах крыніца,
З шумлівай вадзіцы,
Два берагі ўпоруч
Кранаюцца дна.
Зыходзяцца хвалі
Ў вірлівыя статкі.
У люстры бяроза
Зглядзела красу.
І ноччу,
Пад цёмнаю пастранню неба,
Русалка сваю
Заплятае касу.

* * *

*Песня - душа народа*

**Р.Р.Шырма**

Песня шчырая роднай вёскі,
Ад пачатку і да канца
Ты звініш у душы адгалоскам
Жытняй нівы і сілай жыцця.
Ты сваёю магічнай сілай
Гадавала, люляла дзіця,
Адпраўляла на службу сына
І за сейбітам у поле ішла.
Спелым коласам, хлебным дажджом,
Ручніком, кутасамі аздобленым,
Усміхаўся вясковы дом -
Песняй жніўнаю, з доляй роднаю.
І на кожны жыцця зачын
Ці то ў шчасці, ці ў горкай долі
Выспявалі з глыбінь душы
Роднай песні магутныя словы.
Людзям шчырасці не стае...
Я на волю пускаю замову:
"Беражыце паўсюль і заўжды
Песні продкаў - жыцця аснову!"

* * *

***Памяці Яўгеніі Янішчыц***

Ластаўка, палеская галубка,
"Дачка любові, жалю і святла".
Кужаль белы ніткай палыновай -
Вершаў прасціну сваіх віла.
Ткала ты, а нітачка станчалася
Чыстага імклівага жыцця.
Веру я, ты проста не ўтрымалася,
Паляцела ў пространь да святла.
І світае над Палескім краем
Споведзь сэрца, чыстае душы.
Росамі празорымі над гаем
Вершы твае сцелюць туманы.

* * *

Распята воляй лёсу на крыжы.
Крычаць нахабна ў вушы крумкачы.
Стаю адна на ростані дарог,
Выратаванне - бацькавы парог,
Няўтульна ў хаце - ахінае змрок,
За крокам крок жыццё дае ўрок.

* * *

У шэрай світцы, з туманоў шурпатых,
Боты з лісця, нібы навырост,
Напрамкі да ельнікаў махнатых
Коціць восень залацісты воз.
Кудасой усцілае ўсе аблогі,
Павутой наладжвае масты,
Восень, абыдзі мае парогі,
Заблудзі ў суседа на мяжы.

* * *

Мяняецца рака майго жыцця
І асакою берагі стуляе.
На мелкаводдзі - як без крылаў птах,
А сэрца, веру, дабрыні шукае.

Не літасці, змялеўшая, прашу,
А кроплю сілы, дзён маладзіковых,
Лісток пажоўклы восеньскі нашу,
Каб захаваць цяпло да дзён вясновых.

* * *

Перабірае клавішы жыццё,
То сум, то роспач горла перацісне.
Пад ногі ўсё калючкі і трысцё
І залатоўкі восеньскага лісця.

Перабірае клавішы жыццё,
То засмяецца, то на ўсхліп заплача.
Ўсё покрывам туману занясло,
Асірацелы воран жалем крача.

Перабірае клавішы жыццё,
Звініць харалам на алтары лёсу.
Маіх трывог раскутае звяно,
Маіх надзей адчайнае вясло.

* * *

Я раскаяння не пачую,
Слодыч губ не расчуліць цябе.
Бесклапотна па волі вандруеш!..
Адзінота маланкай жахне.

І наўсцяж расчыняцца дзверы
У халодную бездань начы.
Чалавечае сэрца ў бязвер'і.
Лепш за ўсё, памаўчы, памаўчы...

* * *

Думкам - волю, словам - прастор.
Недасяжная прастрань кахання...
Словы ў роспачы - не ў дакор
На крыжовых дарогах расстання.
Вывяраю пачуцці часам,
Раздзімаю агеньчык свячы,
І глядзяць васільковыя вочы
У бязмежжа сіняй начы.

* * *

Вырай далёкі думак маіх
З часам інакш успрымаю.
Прагну пяшчоты, нас удваіх
У марах і снах уяўляю.

У вечара зычу кроплю святла
З рога далёкага месяца.
Ценем дрыготным ціха лягла
Дарога да мілых веснічак...

## Валянціна РОГАЧ

### Настаўніцкі вальс

Апошнім званком завяршаецца май.
І першы ўрок зноўку мроіцца нам
Да скроняў сівых, да апошняй вясны
Зліліся ў адно нашы мары і сны.

Над родным прасторам
зямлі беларускай -
Над Нёманам, Лошай, Уздзянкай
і Вусай
Настаўніцкі вальс
белай птушкай ляціць
І першым званком
ў нашым сэрцы звініць.

З чужых гарадоў і вясковай цішы
На крылах нястомнай, адкрытай душы
Спяшаецца песня да нас нездарма.
Настаўніка ўспомні святое імя.

Ніколі душа не паддасца гадам,
Старэць і хварэць не дазволена нам.
Да скроняў сівых, да апошняй вясны
У настаўніцкім сэрцы цвітуць верасы.

* * *

Я з табой, я заўсёды з табой
Неабдумна квітнею вярбой,
Ля азёр тваіх тлумных вачэй,
Спелай поўняю зорных начэй,
Малахітавай рунню травы -
Я з табой, любы мой, дарагі.
Неспакойнаю плынню ракі,
Хваляваннем пяшчотнай рукі,
І дзіцячаю шчырай усмешкай,
І свянцонай галінкай ў застрэшку.
Вадахрышчання кропляй жывой -
Я з табой, я заўсёды з табой.

### Я вярнуся

Прывітанне, Прынёманскі край!
З вандравання мяне сустракай,
Задуменна-прыветлівым борам,
Цішынёю затокаў, азёраў.
Я вярнуся к табе напрадвесні
Жаваронкавай першаю песняй,
Капяжоў пералівамі звонка
Пралячу па-над роднай старонкай.

Сцежку кожную, кожны твой дом
Атулю свайго сэрца крылом,
А нягоды душой уратую -
Не прыняць, мне зямельку другую.

На змярканні дарогі жыцця
Над табою, крывінка мая,
Адбалеўшы апошняю песняй,
Белай птушкай сыду ў паднябессе.

Любы мой, мой куточак адзіны,
Да зямлі, што мяне нарадзіла,
Як да маці сваёй, прытулюся...
Я вярнуся к табе, я вярнуся.

* * *

***Яўгеніі Янішчыц***

Над задумай маёй бласлаўлёнай
Млечны шлях пацяшаецца зноўку...
Дзе, якою парой вечаровай
Адшукаць тваёй вечнасці зорку?

Баюць песні з гадамі званчэй
Аб табе на Палессі бярозы
Жэня, Жэнечка, што прыгажэй:
Райскі сад ці над Ясельдай лозы?

Прамяняць існаванне зямное
На Аідава царства ці варта?
Там жыццё для паэтаў якое?
Што чакае: любоў ці пагарда?

І каму сярод нас твой анёл
На зямлі прызначае спатканне?
Жэня, Жэнечка, вечны спакой
Ці мілей за зямное каханне?

...Ні на тым, ні на гэтым свеце
Ўсё ж, здаецца, спакою не будзе.
Летуценна павернута сэрца
Непрыкрытай душою к людзям.

* * *

Не адракаюся ад дзён былых
І раны не загойваю бальзамам,
Абдзеленых цяплом, начэй сваіх
Не прадаю за заўтрашняе ранне.

Не асуджаю маладосці вёсны,
Не паспытаўшы жаночай долі,
Дарую лёсу зблытаныя кросны -
Няхай камусьці пашанцуе болей.

### Бацьку

Памяць малюе ўпотай
Твор - такі родны і блізкі.
Пароўну скупой пяшчоты
Над кожнай было калыскай.

Святло тваіх чулых рук,
Прапахлых зямлёй і потам, -
Бы той ратавальны круг
І ўчора, і сёння, і потым.

### Пралеска

Ах, тата, як спяшалася вясна!
І пасля сцюжы сумавалі рукі
Па трактары, па "водары" мазуты.
Іх вабіла калгасная ралля.

Крылом вясновы ветрык узмахнуў.
Закончана работа, звечарэла,
Натруджана гуло і ныла цела,
Ты, стомлены, далоні разгарнуў.

Сумеўся вечар дзіўнай сінявой.
З далоняў, працавалі што на ўзлеску,
Глядзелі ў твар мне сінія пралескі
Паміж тваіх шурпатых мазалёў.

## Яўген КАРПУЦЬ

### Настаўніца

У беленькай блузе
пад золатам клёнаў
Ты зняла хусцінку, як быццам карону.
І школа ўрачыста цябе сустракала -
З дзіцячай кагортай
ты долю спаткала.
Карэнні ўрасталіся ў тыя вытокі,
Дзе промні Дабра,
Прыгажосці урокі.
Крынічка ў Альбуці,
птушыныя песні
Надзею і Веру ўпэўнена неслі.
Ты цешыла вучняў
жыццёвай калыскай,
Заўсёды, як маці, была самай блізкай.
Абходных шляхоў не шукала ніколі,
З табою, як кажуць, з'ядалі пуд солі.
З рамантыкай працы
і шолахам сшыткаў
Па плынях жыццёвых,
што не без убыткаў,
Імкнулася, верыла ў Праўду навек
Гуманны, сумленнай душы Чалавек.

### Родная вёска

У думках, быццам у аблоках,
Плыву над вёскай Лабачы -
То раптам нізка, то - высока...
І сняцца сны мне уначы.

Вось тая вёсачка ля лесу,
Дзе землякі мае жывуць,
Дзе раніцою сваю месу
Зноў пеўні дружна запяюць.

Лячу у вір маленства смела -
За працай бачу тых жанчын...
Плыву далей па травах спелых
Ля роднай вёскі Лабачы.

І што тут скажаш пра нягоды,
Пра быт вясковы, пра жыццё? -
Пульсуюць ў такт самой Прыродзе
Надзея, вера, пачуццё...

Аселі многія ўжо хаты,
Вясковых дзетак не відаць,
Рабочай сілы малавата,
Цымбалы з бубнам не звіняць.

А помніцца - як у Марылі
З акон, расчыненых наўсцяж,
Сямікаленныя кадрылі
Дарылі гучна свой пасаж.

Ніхто не скардзіўся на долю -
Гучалі песні над сялом.
А заўтра - зноў з сярпамі ў полі...
(Тады камбайнаў менш было.)

Ляцяць гады. Той час далёкі
Заўжды дыханнем сцерагу.
Дзядзькі, дзяды, што з нашай вёскі,
Пра вас забыцца не магу.

У гэтых вобразах знаёмых
Мне адкрываўся цэлы свет.
Глядзеў на ўсё я улюбёна -
Як майстраваў калісьці дзед.

Прыносіў кожны дзень абновы,
Вязаў мне лёс вузлы свае.
З жыццёвых нітачак асновы -
Сцяжынкі першыя мае.

Тут наша маці ў крузе вечным
Наш род у дзецях берагла,
І з калыханкаю сардэчнай
У свет нас казачны вяла.

Я прасяваў праз сваё сіта
Усе справы, думкі землякоў
І вельмі добрых, працавітых
Адчуў суседзяў ды бацькоў.

Тут мялі лён і кросны ткалі...
І Бог, як кажуць, усіх сцярог.
Прыгожа крыж так убіралі,
Які стаяў каля дарог.

Дарог і сцежак было многа
Якраз ля вёскі Лабачы.
Цяпер яна забыта Богам -
Тут кружаць толькі крумкачы.

### Залатыя рукі

Святло ад колераў ружовых
Зганяе з душаў нашых цень.
Мы, быццам з нітачак жыццёвых,
Прадзем кудзелку кожны дзень.
Карціць зрабіць усё, змагацца...
Так у прывычку ўрасло,
Што нельга дня пражыць без працы,
Калі чакае рамясло.
Ад калаўротаў шум лагодны
І першы навальнічны гром
Зліліся з музыкай народнай,
Вітаюць беларускі дом.
Тут ручнікі пад абразамі
З сівых даўнін і тых вякоў,
Дзе залатымі паясамі
Слуцк зачароўваў землякоў.
Рытмічна стукаюць красёнцы
І хутка бегае чаўнок.
Лянок збірае промні сонца,
Пераплятаецца уток.
Няхай святлеюць нашы хаты
Ад тых дэкораў, абрусоў...
Сустрэнем мы на нашых святах
Ткачых, умельцаў і майстроў.

***

Дорыць восень колер залаты,
Дзе сярод бярозак ды асін,
Рэдкія зрываючы лісты,
Шпацыруюць стройныя ласі.
Дорыць восень добры ураджай
На палях, ў садах ды агародах.
А ў лясах, грыбы,
як на дражджах,
Для людзей вырошчвае Прырода.
Дорыць восень і вяселляў час.
Адпачнуць хай рукі ды прылады.
Напаўняюць дзеці школьны клас, -
Восені яны таксама рады.
Дорыць восень цішыню, спакой,
Песню жураўлінную у небе.
Як жа не любіць пары такой,
Калі застанемся мы пры хлебе?!.

### Стаўбцоўшчына

Сонца ў водах Нёмана іграе,
І бяжыць да Брэста магістраль.
Паглядзі, Стаўбцоўшчына якая -
Песня жаўрука нясецца ўдаль.
Коласаўскі край такі прывольны,
Песнямі ад веку шчыраваў.
Лісцікі бярозак беластволых
Тут ружовы ранак цалаваў.
Першыя юнацкія сцяжынкі
Да дубоў прынёманскіх вядуць,
Дзе плывуць у небе аблачынкі
Над мясцінай з назваю Альбуць.
Зіхацяць ізноў на небасхіле
Зорачак дрыжачыя вянкі.
Дружна карагоды мы вадзілі
І збіралі ў полі васількі.
Не знікаюць памяці крыніцы;
Тут народ вітаюць калядой.
Тут заўсёды шчасце прамяніцца
Талентам і сілай маладой.
Тут лясы ўпіраюцца у неба,
Срэбным горнам
звоніць сенажаць.
Пахне ў хатах беларускім хлебам.
І прасторы - вокам не абняць.
Вось яны, прынёманскія далі,
Галасы знаёмыя сяброў!
Тут жаданы мы, бо нас чакалі,
Быццам з выраю далёкага буслоў.
Мікалаеўшчына, Дзераўная...
Вабяць прыгажосцю зноў і зноў.
Мабыць, тут сама зямля такая,
Што вядзе да новых нас высноў.
Дзіўны край!
Ён быццам - для паэтаў,
Край для працавітых тых людзей, -
Ён вясковай шчырасцю сагрэты,
Мудрасцю й вытокамі надзей.
Ў наваколлі вёскі Дзераўная
Баравічныя мясціны у барах.
Бусел важна ў небе пралятае,
Гэты вольны, гэты дзіўны птах.
Тут вітаць гасцей заўсёды рады,
Па-сяброўску шчодра частаваць.
Тут умеюць выслухаць парады
І прыпеўкі весела спяваць.
Ў гэты край з далёкіх далячыняў
Зноў вяртаемся і робім новы крок
Да Стаўбцоўшчыны,
як да святыні -
Поля, дзе ў жыце васілёк.
Тут чаруюць воклічы і гукі.
Не забыць нам гэтае красы.
Жар сяброўства грэе нашы рукі,
Дзе ружовыя не гаснуць верасы.
Лёс адгэтуль шлях наш выбірае.
Ткуць тут ільняныя ручнікі.
Легендарны край - зямля святая!
Нам наканавана на вякі.

## Людміла ЛАПАТА

* * *

У белай белі ўсё застыла:
Палі, азёры і лугі...
Ды пра вясну нам нагадалі
Ля рэчкі рыжыя стагі.

Духмяны пах да нас даносіў
Гуляка-вецер аж сюды,
І ўспаміналіся тады
Трава, зямля і неба просінь.

### Вясна

Вясна прыйшла -
Заплакаў снег,
Ручай нясмела
Ўдаль пабег.

І лёд на рэчцы
Тонкі стаў,
Пачнецца хутка
Лёдаплаў.

Лаза, што колер
Памяняла,
Сапраўдную красуняй
Стала.

Шчабечуць, цешацца
Шпакі -
Палёў, садоў
Вартаўнікі.

А матылёк
На крылах мар
Імкнецца ўвысь -
Ажно да хмар.

І шчасцем
Поўніца навек
Вянец прыроды -
Чалавек.

## Алена ТАЦЭВІЧ

### Гісторыя аднаго кахання

Яна, студэнтка трэцяга курса Марына Ляшчонак, з неглыбокімі ведамі, але вялікім творчым патэнцыялам. Ён, выкладчык рускай літаратуры Фёдар Аляксандравіч, узнёслы, экзальтаваны малады чалавек 55 гадоў.

Яна старанна прагульвала яго лекцыі, апраўдаваючы сябе тым, што Ньютан, напэўна, таксама не вельмі захапляўся гэтым прадметам.

Ён не менш старанна адзначаў усіх адсутных, матывуючы тым, што Ньютан хоць і не ведаў літаратуры, затое стаў вялікім фізікам, у адрозненне ад Марыны, у асобе якой краіна можа страціць другога Пушкіна.

Яна па-сяброўску высмейвала яго на сцэне падчас студэнцкіх "капуснікаў", неадназначна намякаючы на яго акуляры і з вялікім імпэтам паказваючы, якая ў прафесара лысіна.

Ён гаварыў, што нават у Венеры Мілоскай ёсць заганы, і потым яшчэ два тыдні чытаў лекцыі ў капелюшы.

Яна на экзамене Фёдара Аляксандравіча заўсёды рыхтавалася за першай партай, дэманструючы стройныя ногі і аддана гледзячы ў вочы выкладчыку.

Ён чырванеў і спрабаваў сарамліва закрывацца залікоўкамі, гаворачы, што яшчэ вельмі нявопытны для такіх гульняў.

Яна раптам пачала заўважаць, што Фёдар Аляксандравіч валодае своеасаблівай абаяльнасцю. Гледзячы на яго, Марына заўсёды была гатова згадзіцца, хоць ён ніколі ні аб чым не прасіў.

Ён раптам адчуў сябе маладым і прыгожым, і хацеў прасіць, але не ведаў аб чым.

Яна пачала мужна наведваць яго заняткі, хоць і трапляла ў абдымкі сну ўжо на дзесятай хвіліне.

Ён стаў весела паціраць рукі, калі яна заходзіла ў аўдыторыю, і з задавальненнем ставіў ёй пяцёркі, нават калі яна маўчала.

Яна, гледзячы ў вочы, нарэшце, прапанавала: "Можа, з'ездзім да вас выпіць кавы?"

Ён катэгарычна кінуў: "Не, спачатку ў кіно!"

І невядома, чым бы скончылася гэта гісторыя, але аднойчы ён не прыйшоў на заняткі...

---

Упраўленне адукацыі Мінскага аблвыканкома і педагагічная грамадскасць вобласці выказваюць глыбокае спачуванне галоўнаму інспектару па кадрах упраўлення адукацыі аблвыканкома Асташонак Таццяне Аляксееўне ў сувязі з напаткаўшым яе вялікім горам - смерцю БАЦЬКІ.

Галоўны рэдактар Аляксандр Гайдук

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Рэгістрацыйны нумар 197.

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны прыёмнай рэдакцыі: 36-91-42; намеснікаў галоўнага рэдактара — 36-90-63, 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-53-22; аддзелаў: школ — 36-43-62; праблем выхавання — 36-43-71; інфармацыі — 36-43-71; навукі і ВНУ — 36-44-25; кіравання адукацыяй, пісьмаў і сацыяльных праблем — 36-44-25; культуры — 36-41-55.
ФАКС: 36-53-22, bng@e-mail.ru

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар пашпарта, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.
Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.
Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.
Адказны дзяжурны
Святлана КІРСАНАВА.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку», 220013, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны. Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12. Заказ № 1407
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана да друку 19.6.2002 г. у 18.10
Тыраж 30.000 экзэмпляраў.